**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-52

## Эх, дарогі...

Калі нафта — кроў эканомікі, то дарогі — яе артэрыі. Будаваць рынагную эканоміку без наяўнасці шырокай сеткі дарог сучаснага ўзроўню немагчыма. Але, як вядома, пра іхнюю якасць казаў яшчэ Гогаль, і па сённяшні дзень ягоныя словы застаюцца актуальнымі. Зразумела, што пад час працяглага крызісу асабліва разлічваць на будаўніцтва новых дарог дарэмна з-за адсутнасці сродкаў. Куды больш танна і мэтазгодна аднавіць тое, што ўжо ёсць у наяўнасці. Тым больш, калі ёсць магчымасць пераняць замежны вопыт у гэтай галіне. З гэтай нагоды Міністэрства будаўніцтва і выкарыстання аўтамабільных дарог Рэспублікі Беларусь праводзіць 23 лютага рэспубліканскі семінар "Сучасная тэхналогія капітальнага рамонту аўтадарог" сумесна з германскай спецыялізаванай фірмай "БОМАГ". З ейнага боку ў семінары прымуць удзел эксперт па пытаннях эксплуатацыі тэхнікі пан Клоўберг і кіраўнік праектаў кааперацыі і ліцэнзій з краінамі Усходняй Еўропы па тэхналогіі капітальнага рамонту аўтадарог пан Групе.

## Узбройвайся хто можа

1 сакавіка ў Мінску адкрыецца Міжнародная выстава-кірмаш "Бяспека. Крыміналістыка. Правапарадак", арганізаваная мінскай асацыяцыяй "Насельніцтва за бяспеку". Да ўдзелу ў выставе запрошаны прадпрыемствы і фірмы Беларусі, Расіі, краін Балтыі, Украіны. Далёкае замежжа будзе прадстаўлена фірмамі з ФРГ, ЗША, Італіі, Польшчы і іншымі. На выставе прадэманструюць найноўшыя сістэмы электроннай аховы, сродкі проціпажарнай бяспекі, прыстасаванні індывідуальнай абароны, бронекамізэлькі, браніраваныя дзверы, "сакрэтныя" замкі, карткі ідэнтыфікацыі і іншыя сродкі абароны і аховы.

## "Рээкспарт" па-мазаўску

З моманту адабрання ў Мінскага завода колавых цягачоў правоў юрыдычнай асобы пакуты завода працягваюцца.

Ужо вядома, МАЗ палічыў "апальнікаў" банкрутам. На першы погляд, можна паверыць гэтаму: доўг у МЗКЦ перад МАЗам складае больш як 20 мільярдаў рублёў. Але давайце паглядзім, што хаваецца за гэтымі астранамічнымі лічбамі.

Як прадстаўнікі машынабудавання, ні МЗКЦ, ні МАЗ энерганосьбіты не выпрацоўваюць, а атрымліваюць са спецыялізаваных прадпрыемстваў, на што складзены адпаведныя дагаворы. Карацей кажучы, МАЗ з'яўляецца "рээкспарцёрам" энерганосьбітаў для МЗКЦ. Вось гэты "рээкспарт" за 1993 год абышоўся МЗКЦ трыццаццю пяццю працэнтамі ў сабекошце прадукцыі. Толькі ў снежні мінулага года МАЗ адавізаваў за энерганосьбіты аж 5 мільярдаў рублёў пры сабекошце ўсёй прадукцыі МЗКЦ 8 мільярдаў. Гэта значыць, што адзін зароблены рубель рабочага-здзельшчыка абыходзіцца 20-цю рублямі энерганосьбітаў!

МАЗаўскія адпаведныя лічбы для МЗКЦ з'яўляюцца закрытымі, таму прааналізаваць іх нельга.

На МЗКЦ няма ліцейных цэхаў, і прадукцыя, канечне, не з'яўляецца энергаёмістай. Але каб немалую ролю у затратах займалі энергія, вада ды пар, то гэта ўжо занадта!

Вось такі эканамічны малюнак дапамог намаляваць МАЗ былому партнёру (а цяпер свайму падраздзяленню), які не мае правоў адстаяць сваё гаротнае становішча.

Цяжка сказаць, што будуць рабіць працаўнікі МЗКЦ. Да самастойнасці ім шлях перакрыты, бо тыя мільярды, што "павіслі" на балансе завода, некалі трэба аддаць.

Сяргей ШАРШНЁЎ.

## Пераможаныя – пераможцам

Паводле звестак федэральнага ўрада, па агульнаму аб'ёму бясплатных паставак, крэдытных гарантый, пазык і г.д. Германія крочыць наперадзе ўсіх заходніх дзяржаў—донараў Расійскай Федэрацыі і іншых рэспублік былога Саюза ССР. За апошнія чатыры гады ФРГ выдзеліла на дапамогу ўвогуле 87,55 мільярда марак. У пераліку на кожнага грамадзяніна Германіі з гэтай сумы прыходзіцца 341 даляр ЗША. Другое месца займае Канада — 67 даляраў на кожную душу насельніцтва. Апошнімі ў спісе донараў засталіся Японія — 7,5 даляра, і Англія — 1 даляр. Такім чынам, Германія выдала ў грашовым выражэнні ўдвая больш, чым усе астатнія дзяржавы "вялікай сямёркі" разам.

**СКРЫЖАВАННЕ**

# Прывіды ў прыцемках дэмакратыі

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

*Пасля красавіка 1985 не прайшло і дзевяці год. Што гэта, як не імгненне гісторыі, ды яшчэ і падзеленай на савецкую і пастсавецкую. Не выклікае сумненняў, што былы Саюз існуе. Як міраж, як фантом — у галовах людзей. І, думаецца, у першую чаргу ў галовах уладатрымальнікаў. Вось дзе вопытны псіхааналітык адшукаў бы прычыны паводзін лідэра і закамплексаванасці світ.*

Адзін з такіх лідэраў, стаўшы кіраўніком звышдзяржавы ў росквіце гадоў, дапусціў ракавую памылку. Не толькі для сябе, але і для народа. Ён стварыў ілюзію даступнасці ўлады і ілюзію магчымасці ўхілення ад адказнасці за бязладнае карыстанне ёю. Будучыя (а многія з іх — былі і тады) бацькі нацый пільна назіралі, з якой бестурботнасцю ён робіць адно за адным няправільныя дзеянні і, нібыта японскі воін, ідзе далей, пакідаючы ўздоўж дарогі свае нерухомыя цені-двайнікі.

Макраэканамічныя рэформы ажыццявіў Другі чалавек. Адыход яго з крамлёўскага ўрада дазваляе прымяніць дзеясловў у мінулым часе. Падобнасць палітычных лёсаў і першага і другога — Гарбачова і Гайдара — вельмі вялікая. Па простай прычыне — абодва з элітарнага асяроддзя, Гарбачоў у меншай ступені, Гайдар — яе чысты прадукт. Як не прыпомніць класіка: страшэнна далёкія яны ад народа. Вынікам праўлення Міхаіла Сяргеевіча стаў раскол дзяржавы, вынік шокавай тэрапіі па Гайдару — рэальна магчымы лятальны зыход для ляжачай пад наркозам эканомікі. На гэтым туманным фоне маячаць беларускія рэфарматары.

Дзесьці на рубяжах семідзесятых-васьмідзесятых набыла вядомасць тэорыя, згодна з якой (паводле прагнозаў аўтараў — савецкіх вучоных-псіхіятраў) пакаленні, актыўна ўвайшоўшыя ў жыццё ў тыя гады, будуць не дзеяздольныя, паколькі выхоўваліся на вобразе ворага. Передумова: бацькі, прыходзячы з работы, вядуць бясконцыя размовы пра падкопы супрацоўнікаў і г.д. Тэорыю падверглі абструкцыі. А як жорстка прадказанне супала з пікам часу. Ці сапраўды надышоў час нягоднікаў.

Па ўсіх прыкметах — так. Яны прагнуць нажывы. І нажываюць капітал, але за кошт галечы народа. Як можна набыць капітал за год-два? Па-рознаму, але няправедна. За мізэрным выключэннем. Партыйны, савецкі, камсамольскі істэблішмент нырнуў у перабудовачныя нішы, памяняў крэслы, а то і гарнітуры,ператасаваўся і пачаў багацець, прыватызуючы ўсё запар. Чыноўнікі і апаратчыкі, вытворчыя тузы і цэнвікі пачалі рабіць грошы з грошай. Шокатэрапія і яе падчарка — інфляцыя надалі гэтай з'яве фантастычныя рысы. Тым часам вытворчасць зварочваецца, з калектываў звальняюць непажаданых. Сімбіёз "чорных" капіталаў і легальных грошай павялічвае фінансавую масу. Растуць магчымасці маніпуліравання ёю.

На злодзеі шапка гарыць. Жывучы сённяшнім днём, не стамляюцца рэкламаваць сябе фірмы і фонды. Ганарлівыя грыфы, магутныя львы, а галасы, галасы. Дарагая тэлерэклама настолькі фальшывая, што дастаткова мімалётна паглядзець і паслухаць яе хаця б раз, каб уявіць ступень падзення нораваў. Усім усё зразумела, але... — маўчанне ягнят.

Грамадства гэтак жа хутка прызвычаілася да нулёў, да неймаверных лічбаў, як і стала іх нявольнікам. Горкую ўсмешку выклікае ўспамін аб тым, што свабодныя цэны выдаваліся за панацэю. Прыйшла пара — і яны дзевятым валам абрушыліся на галовы тых, хто шчыра падтрымліваў манетарыстаў. Некіруемую цэнавую стыхію востра адчулі шахцёры, металургі, нафтавікі, газавікі. Манапалісты страцілі рынкі збыту, пакупніцкая здольнасць насельніцтва наблізілася да самай нізкай адзнакі. У розных рэспубліках вынаходзяць розныя механізмы для выратавання нацыянальных эканомік, але ўсе яны падобны на пякельную машыну. Ці выратуецца хто? Дажывём — пабачым.

Тыя ж, хто вёў народы да зззяючых вышынь, хутка развіталіся з навуковымі догмамі прывідаўбарадачоў. Яны багатыя і не саромеюцца свайго багацця. Але ж наперадзе бездань невуцтва. Калі паўпустая казна па-жабрацку забяспечвае існаванне пенсіянераў і інвалідаў — на адукацыю, навуку, ахову здароўя, культуру дастатковага мінімуму сродкаў няма. Калі настаўнікі перыядычна пагражаюць страйкам — аб якасці адукацыі гаварыць няма сэнсу. Здаецца, адны толькі банкі і валютныя біржы працвітаюць пад гэтым святым небам, а беспрацоўным у цэнтрах занятасці прапаноўваюць скончыць бухгалтарскія курсы.

Вельмі цяжка шукаць у цёмным пакоі чорную кошку, асабліва, калі яе там няма. Як знайсці выйсце з крызісу, калі крызіс запраграміраваны. Зразумела, што свабодныя цэны могуць азначаць толькі адно: ніхто не будзе працаваць лепш, дзеці сацыялізму пачнуць спаборнічаць у хутчэйшым павышэнні. Рэформы ўзору студзеня 1992 года былі асуджаны. Гэта разумелі эканамісты, цяпер гэта разумеюць палітыкі. Але тады ў Маскве ва ўладныя структуры прыйшлі маладыя львы. Яны слаба ведалі рэальнае жыццё. Залатая моладзь вырашыла пачаць з чыстага ліста. Аднак, выбраўшы самую адыёзную і сумна вядомую свету мадэль, апынулася ў стане факіра, прымушанага даставаць з чорных рукавоў ваўчары і акцыі. Прычым усе ведаюць, што гэта падман. Рэспублікі рушылі ўслед, амаль поўнасцю залежачы ад Расіі, але з гонарам падкрэсліваючы сваю незалежнасць. А хто занадта ўзганарыўся — пацярпеў больш за іншых. Цяпер нас палохаюць украінізацыяй эканомікі.

Грымнуў студзень. Як і чакалі спецыялісты, пачалося рэкорднае падзенне курсу расійскага рубля да даляра. Месяц азнаменаваўся ажыятажам на валютным рынку. Прадказанні самыя змрочныя. І ўсё ж быць разам з Расіяй — лёс Беларусі. Гэта не азначае абмежавання суверэнітэту. Гэта спосаб выжыць. Пачне гінуць Беларусь — свет не кінецца ратаваць. Расія ніколі не праваліцца ў пекла. Яна вечная. Расійскія фінансы — гэта сапраўдныя грошы ў адрозненне ад нашых разліковых білетаў.

Як пабудаваць квітнеючую дзяржаву ў правале ад катлавана? Пакуль няма для гэтага ніякіх перадумоў — ні часу, ні рэсурсаў, ні вопыту. Палітыкі круцяцца, чакаюць, усім выглядам паказваючы, што эканоміка таксама можа трымаць паўзу. Бадай, апазіцыя найбольш сумленная. Паставіўшы перад сабой некалькі архаізаваныя і утапічныя мэты, яна ім не здраджвае. Ва ўладных жа структурах расце разгубленасць.

Але самае страшнае ў іншым. Гіне ідэя дэмакратыі. Не паспела палыхнуць яе ружовая зара — надышоў ружова-чорны прыцемак. Усё адбылося амаль імгненна. Народ толькі мелькам убачыў прывід свабоды і дабрабыту.

Трэба ўяўляць, што перабудову забяспечвае інтэлект савецкіх дысідэнтаў, якія былі сапраўднымі ахвярамі рэжыму. Калі людзі, маючыя дачыненне да ўлады, вычарпалі дысідэнцкую крыніцу, перабудова захлынулася. Прарыў адбыўся толькі на ўзроўні культуры.

А зацяжны скачок з дэспатыі ў дэмакратыю альбо працягваецца, альбо завяршыўся прызямленнем у зазяркаллі. "Гэта дэмакратыя?" — пытаецца народ, завіснуўшы ў прасторы. "Так", — адказваюць яму ўлады і "аддаюць" раскаяўшымся літоўскім камуністам бедакоў Буракявічуса і Ермалавічуса. Памятаеце эстэтычную асалоду ад сюррэалістычнага гумару: "І прымкнуўшы да іх Шэпілаў"?

Піраміды ўлады аказаліся больш трывалымі, чым егіпецкія. Усюды знаёмыя твары. Народ салодкагалосымі птушкамі суцяшаюць тыя, хто ўчора супыняў яго на адкрытых партыйных сходах. Зайдзіце ва ўстановы і фірменныя офісы — яны і там. Але на ўсім адбітак запусцення, нейкага пасткамуністычнага дэкадансу. Можа, існуе карма не толькі ў людзей, а і ў ідэй?

**АНТЫРЭКЛАМА**

## Без апладысментаў

*15 лютага ў Мінску адкрылася выстаўка "Антырэклама". Хоць і трэба было б прывітаць мужнасць арганізатараў першага паказу ў рэспубліцы няякасных тавараў, якія літаральна запаланілі рынак. А зрабіла гэта Таварыства абароны спажыўцоў Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы ўрада, парламента рэспублікі і ўлад сталіцы.*

*Адкрыў унікальную экспазіцыю старшыня рэспубліканскага Таварыства абароны спажыўцоў Уладзімір Карагін. Ва ўступным слове ён падкрэсліў, што гэта толькі першая спроба паказаць у "рабоце" новы закон Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў".*

*Ледзь не паўтысячы экспанатаў запоўнілі стэнд залы "Антырэкламы". Санітарныя ўрачы, работнікі ўпраўлення гандлю, службы стандартызацыі і Дэпартамента эканамічнага кантролю пры Савеце Міністраў Беларусі адабралі іх на базах і ў магазінах.*

*Аказваецца, замест каньяку бывалыя гандляры вязуць спіртаўтрымліваючыя вадкасці. Падманваюць народ і з кофе, 96,9 працэнта якога ў мінулым годзе спецыялісты прызналі няякасным.*

*Грыбы, ікру, агародніну і многае іншае можна ўбачыць на стэндах гэтай унікальнай выстаўкі. Спецыялісты, якія дзяжураць там штодзённа, да дня закрыцця 21 лютага раскажуць, як засцерагчыся ад неразумнай пакупкі, як пераканацца ў якаснасці тавару, весці дыялог з прадаўцом аб сертыфікаце якасці.*

*БЕЛІНФАРМ.*

*Фота Г. СЯРГЕЕВА.*

**НАВІНЫ АД ГАЎДЭАМУСА**

# Студэнтаў вучаць святары

□ Ірына ЗАВАДСКАЯ, "ЧЗ"

*Напэўна, не вельмі часта праваслаўныя святары паднімаюцца на студэнцкую сцэну, каб адтуль вучыць жыццю маладых. Але менавіта ім апладзіравалі ў актавай зале гістарычнага факультэта БДУ вечарам 15 лютага. Так распачаўся святочны вечар, прысвечаны Сусветнаму дню праваслаўнай моладзі.*

Упершыню гэтае свята адбылося год назад па ініцыятыве сусветнага брацтва праваслаўнай моладзі "Сіндэсмас" (што ў перакладзе з грэчаскай якраз і азначае "злучанасць" альбо "брацтва").

Праводзіць свята праваслаўнай моладзі на Грамніцы было вырашана невыпадкова. На думку святароў, дзень сустрэчы з Госпадам Святога Сімяона, якому было абяцана ўбачыць жывога Хрыста, што неўзабаве павінен быў наведаць зямлю, — свята вельмі сімвалічнае. Бо заклікае да пастаяннага духоўнага самаўдасканалення, каб потым не сорамна было з'явіцца перад Бацькам Нябесным у сваю апошнюю гадзіну. Так растлумачыў яго значэнне мітрапаліт Філарэт, пажадаўшы, "каб сучасная моладзь не праходзіла міма агароджы царквы, а зайшла за яе і пачала б нарэшце клапаціцца пра сваю душу і душы блізкіх сваіх", і адначасова вызначыў галоўную задачу маладых праваслаўных брацтваў.

Пасля "ўрачыстай часткі", як водзіцца, адбыўся канцэрт. Скончылася свята, а з ім і Канферэнцыя праваслаўных брацтваў і моладзі Беларусі, што праходзіла тымі ж днямі ў Мінскай епархіі. А ў рэспубліцы з'явілася свая Злучанасць праваслаўных брацтваў.

**Па-суседску**

## Залатымі ваўчары не сталі

Многія расійскія грамадзяне, якія даверылі свае ваўчары інвестыцыйным фондам, засумняваліся ў правільнасці зробленага выбару.

Справа ў тым, што добра разрэкламаваныя фонды аказаліся ў асноўным банкрутамі. А тыя, што сяк-так трымаюцца, не могуць выплачваць акцыянерам дывідэнды.

**ГІСТАРЫЁГРАФ**

# Пад глыбай забыцця

Хочацца расказаць пра забытага нашага земляка Казіміра Гаўрылавіча Чарноўскага. Як сведчаць архівы, ён адзін з першых у Расійскай Імперыі вынайшаў падводную лодку.

У Паўночнай бухце ў горадзе марской славы — Севастопалі ўстаноўлены, як вядома, гістарычны помнік славутаму марскому афіцэру, беларусу Аляксандру Казарскаму ("Чырвоная змена" ад 10 ліпеня 1993 г., "Марская слава Беларусі"). Так, Аляксандру Іванавічу пашанцавала. Ёсць яму помнік, ёсць вуліцы якія носяць ягонае імя (праўда, не на Беларусі. — М.М.). А вось імя Казіміра Чарноўскага страчана з памяці беларусаў, дый марской славы. Я спецыяльна пагартаў энцыклапедычны даведнік "Военно-морской словарь", але там ні слова, ні паўслова не сказана пра нашага суайчынніка-вынаходніка.

Нарадзіўся Казімір Чарноўскі ў памесці Карытніца (зараз гэта Чэрвеньскі раён) у 1791 годзе ў шляхетнай сям'і. Наша "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" ўслед за гэтым паведамляе, што з 1824 года ён у Пецярбургу, вучыцца там у Медыка-хірургічнай акадэміі.

Слабае здароўе ў К.Чарноўскага было з дзяцінства, магчыма, гэта і садзейнічала таму, што ва ўзросце 31 год ён вырашыў стаць урачом, а да гэтага шмат гадоў лячыўся. Для папраўкі свайго стану ён нават ездзіў у Францыю, дзе праходзіў курсы лячэння ў Марселі і Парыжы. І там, далёка ад радзімы, ён упершыню пачаў думаць аб праекце падводнай лодкі. З гэтай мэтай ён на радзіме "Марсельезы" пачаў купляць падручнікі, даведнікі, кнігі аб караблях, па хіміі, фізіцы, матэматыцы, атраноміі, метэаралогіі, ваеннай справе. Як адзначаюць сучаснікі, у ягонай бібліятэцы была і праца "Узбраенне брыганцін, брыгаў, кіраванне імі і вопыты з выкарыстаннем пары".

...Паўночная Пальміра, як яшчэ завуць Санкт-Пецярбург, поўнасцю авалодала сэрцам і розумам Казіміра Чарноўскага. Вольныя ад заняткаў медыцынай часіны ён аддае праектаванню падводнай лодкі. Як указвае тая ж "БелСЭ": "Макет карабля Чарноўскага экспануецца ў Дзяржаўным музеі БССР".

Пасля знясільваючых намаганняў і працы К.Чарноўскага ўвесь вопыт ранейшых дасягненняў у марской справе быў ім унікліва выкладзены на 12 чарцяжах з падрабязнымі апісаннямі.

Не думаў, не гадаў Казімір Чарноўскі, што ягонае дзецішча сустрэне халодны прыём у Міністэрстве шляхоў зносін...

Калі дабрыня трымаецца на прыстойнасці, спагадлівасці людзей, то крывадушша, погань, як правіла, жыве ў прадажнікаў, у саксупах (сакрэтных супрацоўніках). Знайшоўся такі чалавек і сярод акружэння К.Чарноўскага, які выдае яго ўладам. У 1829 годзе арыштоўваюць вынаходніка за прыналежнасць да тайнай рэвалюцыйнай арганізацыі, накіраванай на барацьбу з царызмам. Дзяржаўны злачынца Казімір Гаўрылавіч Чарноўскі спачатку знаходзіцца ў засценках Аляксееўскага равеліна сумна вядомай Петрапаўлаўскай крэпасці. Яго нават дапытвае сам шэф жандараў Аляксандр Бенкендорф.

Знаходзячыся ў зняволенні, Чарноўскі думае не аб прысудзе, не аб пакаранні, а зноў жа аб будучым свайго праекта падводнага карабля. У сувязі з гэтым ён 19 ліпеня 1829 года звяртаецца да яго імператарскай вялікасці. У архіве захаваўся гэты трывожачы сэрца ліст. Як ні дзіўна, ён зацікавіў Мікалая I, але чарцяжоў першага праекта, складзеных К.Г.Чарноўскім, у Міністэрстве шляхоў зносін не знаходзяць.

У змрочнай і сырой камеры наш суайчыннік здзяйсняе свой другі подзвіг. Ён складае новыя чарцяжы на 32 аркушах (64 старонкі). Генерал корпуса інжынераў шляхоў зносін Базен піша сваё абагульненне па ім, дзе, у прыватнасці, зазначае: "...вынаходніцтва гэта робіць гонар ствральніку, і трэба меркаваць, што яго руплівасць і практычныя веды маглі б быць карыснымі пры далейшых даследаваннях і вытворчасці рашучых доследаў для ўвядзення і ўдасканалення падводнага суднаходства ў Расійскай імперыі..."

Вось галоўныя параметры падлодкі К.Чарноўскага: даўжыня — 10 метраў, шырыня — 3 метры. Як гаворыцца зноў жа ў "БелСЭ": наш суайчыннік "...першы прапанаваў будаваць карабель цыліндрычнай формы, а корпус металічны з рухомым перыскопам".

Умовы ў крэпасці рабіліся ўсё больш жорсткімі. У Чарноўскага адбіраюць чарцёжныя прылады і... забываюць аб ім як аб вынаходніку, але помняць як пра дзяржаўнага злачынца. У 1834 годзе яго ссылаюць у Архангельск. І ў гэтым жа годзе рускі генерал-інжынер Карл Андрэевіч Шыльдэр (як ні дзіўна, гэты генерал таксама ўраджэнец з Беларусі — мястэчка Сыманава Віцебскай губерні. — М.М.) увасабляе смелыя ідэі Чарноўскага ў жыццё. Першую айчынную падлодку ён робіць цэльнаметалічнай і ўзбройвае мінай, шасцю парахавымі ракетамі і перыскопам.

Таленавіты і працаздольны К.Чарноўскі і ў ссылцы не марнуе час, ён стварае праекты жыллёвых будынкаў і прызначаецца намеснікам архітэктара горада. Але, як і раней, ён жыве з думкамі пра рэвалюцыйную дзейнасць. Зноў прадажнікі і даносчыкі выдаюць уладам нашага земляка. Імі аказаліся два палякі, якія данеслі, што К.Г.Чарноўскі рашыў арганізаваць узброенае паўстанне і наладзіць пабег з Архангельска.

Новы ссыльны шлях. На гэты раз ён завяршыўся ў горадзе Сарапул Вяцкай губерні, дзе Казімір Чарноўскі адыходзіць у вечны спачын 27.10.(8.11.)1847 года.

У 1991 г. споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння нашага вялікага вынаходніка і падкрэсліваю — рэвалюцыянера, але цень дзяржаўнага злачынца дамоклавым мячом вісіць над памяццю аб Чарноўскім. Юбілейных матэрыялаў пра яго ў беларускім друку мне не прыйшлося пабачыць, як і святочных пасяджэнняў, прысвечаных яму.

Міхась МАЛІНОЎСКІ, правадзейны член Геаграфічнага таварыства, г.Баранавічы.

**ПАШТОВАЯ СКРЫНКА**

## Што рабіць?

Дык што ж рабіць? Гэта спрадвечнае пытанне стаіць перад намі. Не спадзеючыся знайсці адказ, айчынныя рэфарматары кінулі погляд на Захад і сказалі: "Няма чаго выдумляць, давайце зробім у нас так, як у іх". Намалявалі, груба кажучы, клетачкі, злучылі іх стрэлкамі-сувязямі і пачалі гэтыя клетачкі з дапамогай загадаў, законаў, пастаноў, інструкцый запаўняць новымі структурамі, падаткамі, свабодамі, продажамі, прыватызацыямі. Усе гэтыя структуры, адносіны і да таго падобнае, здавалася б, нядрэнна працуюць на Захадзе — вунь, як у іх вітрыны ломяцца ад цудоўных тавараў. Аднак у нас, як толькі запоўняць клетачку, — на наступны ж дзень глупства атрымліваецца, калі не горш.

Вольныя цэны скарацілі аб'ём нашай вытворчасці і дапамаглі Захаду перакінуць свае тавары да нас, і гэтым самым змякчыць вынікі нарастаючага эканамічнага крызісу. Мізэрнае дзяржаўнае фінансаванне навукі дало магчымасць укамплектаваць замежныя даследчыя цэнтры беларускімі кадрамі, а ўласныя цэнтры часам ледзь існуюць, ды і то, часта за кошт нелегальнай здачы памяшканняў камерсантам. Хацелі хуценька забяспечыць усіх жыллём, аднак замест росту колькасць пабудаваных кватэр скарацілася, і даступны яны толькі багачам. Марылі накарміць Беларусь з дапамогай фермераў, а фактычна кормяць нас "таталітарныя" калгасы і саўгасы. Збіраюцца ўвесці страхавую медыцыну, але народ ужо вымірае, ды і медыкі супраць. Замест прыватызацыі расцвілі "прыхватызацыя" і крадзеж. Хоць светлыя вучоныя галовы сцвярджаюць, быццам чалавек, стаўшы ўласнікам, сам у сябе красці не будзе. І так да бясконцасці.

Урад карыстаецца паслугамі заходніх кансультантаў, робіць амаль усё, што раіць Міжнародны Валютны Фонд (МВФ), але замест дасягнення ззяючых вяршынь багацця ўсюды пачала ззяць бездань беднаты. А за акіянам з дапамогай камп'ютэрных мадэлей эканомікі дакладна прадказваюць вынікі любога прынятага ў Беларусі рашэння.

Браць за прыклад заходняе грамадства — бессэнсоўная справа. Зразумець напрацаваныя заходнія эканамічныя мадэлі мы не ў стане. Кітайскі шлях, які пад кіраўніцтвам камуністаў дае 10—15-працэнтны рост аб'ёмаў вытворчасці, мы прапусцілі. Застаецца толькі знайсці свой уласны шлях развіцця.

Няўжо, маючы дзесяткі тысяч нядрэнных, па сутнасці, спецыялістаў па эканоміцы, кіраванню на вытворчасці, у навуцы, дзяржаўных і савецкіх органах, гэта немагчыма зрабіць? Але і іншага шляху няма. Памыліцца яшчэ раз, запаўняючы клетачкі-схемы, далёкія ад рэальнага стану грамадства, ніхто не мае права. Другі захад павінен быць паспяховым. Але ў нас можа быць і трэці захад, і чацвёрты і гэтак да бясконцасці. У нас, у Беларусі, усё магчыма: народ беларускі цярплівы, прывучаны чакаць лепшых часоў доўга.

Вячаслаў ІШЧАНКА.

## Ім шмат не трэба

Лідзія Мікалаеўна Літвіновіч, даверany ўрач Дзіцячага фонду, накіравала мяне да дзяўчынкі, хворай на ДЦП. Пра хваробу не трэба шмат. Гэта — гора, перад якім бездапаможныя сёння нашы медыкі. Ішла да Машы Шылкінай і не адчувала, што ногі вязнуць у мокрым снезе. Я думала, з чаго пачаць гаворку з дзяўчынкай, якая яна наогул?!

Дзесяцігадовую Машу дзядуля вывез да мяне на калясцы. Я павіталася з ёю, і яна ўсміхнулася мне шчырай і яснай усмешкай.

Маша ведае, што пад Новы год да дзяцей прыходзяць Дзед Мароз і Снягурка, але ў цуд... не верыць. "Я хачу хадзіць, — гаворыць яна, — і не магу". Дзяцінства — гэта такая пара, калі не хочацца сядзець на месцы. А Маша не можа гэтага сабе дазволіць. Яна ўважліва слухае казку, глядзіць, як я раблю з паперкі парусьнікі, рашае няхітрыя задачкі, просіць, каб я намалявала ёй ёлку і шарыкі (так, "каб павіншаваць родных"). Вельмі блізкая істота — сібірскі кот Рыжык, якога, на жаль, яна не можа ўзяць на рукі сама.

Калі я збіралася дадому, да Машы зайшла суседка з навагоднім падарункам. Не забываюць дзяўчынку добрыя людзі. Але хочацца, каб дзеці-інваліды больш бачылі наўкол, заўважалі прыгажосць прыроды. А тут з-за дэфіцыту бензіну Маша і іншыя дзеці не змаглі пабываць на навагоднім свяце. Маша абмяжоўваецца мікрасветам з бабулі, дзядулі, бацькоў і Рыжыка. У людзей, якія да яе заходзяць, свае сем'і, справы, праца. Яна адчувае гэта, але нічога не можа зрабіць.

Святлана ЧАРНАЯ.

**ЦЭНЫ**

# Становімся вегетарыянцамі

□ Аляксандр МІХАЙЛАЎ

*Плён фантазіі аўтараў бессмяротнага твора "Дванаццаць крэслаў" — лозунг "Мяса есці шкодна", здаецца, набывае злавесна рэальныя абрысы. У гэтым лёгка пераканацца, наведаўшы мясныя аддзелы магазінаў беларускай сталіцы. Калі ў снежні мінулага года кілаграм паўвэнджанай каўбасы каштаваў у сярэднім восем, то зараз за яго даводзіцца выкладваць 13 тысяч "зайчыкаў", не кажучы пра "сухія" каўбасы, кошт якіх перавысіў 30-тысячны рубеж. У дэпартаменце цэн пры Дзяржэканомплане, Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, упраўленні гандлю і аддзеле цэн Мінгарвыканкама пацвердзіць або абвергнуць інфармацыю пра павышэнне цэн на мясныя прадукты адмовіліся, спаслаўшыся на тое, што на іх, маўляў, дзейнічаюць свабодныя цэны і права ўстанаўліваць іх дадзена вытворцам. Яснасць унесла дырэктар магазіна № 24 "Каўбасы" Мінскага гаркаапгандлю Ірына ПАХОЛАК.*

— Цэны на мясныя прадукты павялічваюцца ледзь не штодзённа і разабрацца ў іх часам не здольныя нават спецыялісты. Справа ў тым, што камбінаты прапаноўваюць прадукцыю па вельмі розных цэнах у залежнасці ад выдаткаў. Напрыклад, зараз мы прадаём паўвэнджаную каўбасу "Капыльская" вытворчасці Лагойскага камбіната кааператыўнай прамысловасці па цане 10 тысяч 400 рублёў за кілаграм, але сёння кошт яе змяніўся, і камбінат прапанаваў яе нам ужо па аптовай цане 14 тысяч за кіло. Калі дадаць да гэтай цаны 30-працэнтную гандлёвую нацэнку, то атрымаецца, што кошт яе рэалізацыі складзе 18 тысяч "зайчыкаў". Спрабаваць зразумець логіку і агульную тэндэнцыю павышэння цэн на мясапрадукты — марнаванне часу, — растлумачыла Ірына Іванаўна.

Помніцца, калі адпускалі "на волю" цэны на мяса і мясапрадукты, ва ўрадзе рэспублікі спадзяваліся, што паліцы крам запоўняцца разнастайным і даступным таварам, узнікне канкурэнцыя сярод вытворцаў і будзе наведзены элементарны парадак у гэтай галіне. Але здарылася адваротнае. Ні Мінсельгаспрад, ні дэпартамент цэн пры Дзяржэканомплане цяпер не ведаюць, наколькі павышаюцца цэны не толькі на мяса, але і на жывёлу, якую закупаюць мясакамбінаты. Звычайным жа пакупнікам ад тысячы аб'ектыўных прычын для павелічэння цэн (узяць хаця б павышэнне закупачных цэн на жывёлу з 3 студзеня) не лягчэй. Не вельмі выйгралі яны пакуль і ад лібералізацыі і канкурэнцыі. Больш таго, вялізная колькасць найменняў каўбас, якая з'явілася ў апошні час, такіх як "Раманская", "Сходненская", "Капыльская", у большасці сваёй, як правіла, нізкаякасных і малазнаёмых нават работнікам гандлю, канчаткова заблытвае насельніцтва пры выбары тавару.

